# Лізнулі пану Эль'Брадэю...

## альбо Ганьба Акадэміі навук Беларусі

Гэтымі днямі наша Нацыянальная акадэмія навук прымала дэлегацыю Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі, узначаленую самім панам генеральным дырэктарам МАГАТЭ М.Эль'Брадэем. Здаецца, упершыню за 15 гадоў да нас завітаў такі высокі госць з ядзернай імперыі. Яе прадстаўнікі ў 1989 годзе вывучалі, так бы мовіць, сітуацыю ў чарнобыльскіх раёнах нашай краіны і надрукавалі даклад...

Яскравым вынікам гэтага даклада стала прыпыненне гуманітарнай дапамогі Беларусі па лініі ААН, паколькі сусветная ядзерная катастрофа падавалася дробным інцыдэнтам, які прывёў да смерці ўсяго 28 пажарнікаў і выклікаў вострыя прамянёвыя захворванні яшчэ ў сотні паўтары чалавек. Акрамя таго, 50 асоб (з 600 тысяч ліквідатараў) набралі радыяцыі звыш меры — вось і ўсе, маўляў, пацярпелыя. Насельніцтву ў забруджаных раёнах, сцвярджалася зместам усяго даклада, нішто не пагражае.

Прабачце, але іншых паслуг ад МАГАТЭ Беларусь не ведала. І таму мяне вельмі здзівіла, што сустрэча з гасцямі ў вялікай зале Акадэміі навук пачалася з уручэння І.Валатоўскім, выконваючым абавязкі прэзідэнта НАН Беларусі, генеральнаму дырэктару МАГАТЭ пану Эль'Брадэю дыплома аб абранні яго ганаровым прафесарам НАН Беларусі.

За што? Можа, авансам? Магчыма, наша акадэмія заключыла або заключыць з МАГАТЭ выгадны дагавор аб навуковым супрацоўніцтве ў паглыбленым, скажам, вывучэнні нявывучанага, напрыклад, ва ўздзеянні малых доз радыяцыі на стан чалавека? Або пан Брадэй урэшце дапаможа нам атрымаць "рэпарацыі" за ўрон Беларусі ад аварыі на ЧАЭС? Альбо дапаможа нашым шпіталям, у якіх няма лекаў?..

Але — не, у іх свае планы. Дакладчыкі, як сам пан Брадэй, прафесійны юрыст, так і пан А.Гансалес, кіраўнік упраўлення радыяцыйнай бяспекі і бяспекі адыходаў сакратарыята МАГАТЭ, развеялі гэтыя спадзяванні.

Яны пахвалілі наш беларускі бок за дэзактывацыю вёсак (пра што мы ведаем: зусім дохлы нумар!) і гаварылі пра свой намер супрацоўнічаць з урадам Беларусі па маніторынгу забруджаных зямель і абгрунтаванні бяспекі пражывання насельніцтва на забруджаных абшарах, каб паўторна засяліць адселеныя вёскі.

Дарэчы, дарожку ім да гэтых праектаў, як мы ведаем, пракладвалі, выходзячы на прэзідэнта А.Лукашэнку, нашы знаўцы сваёй справы гематолаг Я.Іваноў, біёлаг Я.Кёнігсберг, фізік-ядзершчык А.Міхалевіч... Апошні жыць не будзе, калі не "ашчаслівіць" Беларусь атамнай станцыяй. І МАГАТЭ яму дапаможа...

Цяпер ужо, вобразна кажучы, біты павязе нябітага: не нам акажа дапамогу МАГАТЭ, а мы гэтаму агенцтву — абараніць свой мундзір і яшчэ шырэй распаўсюджваць ядзерныя тэхналогіі.

Даючы інтэрв'ю БТ, пан Эль'Брадэй сказаў літаральна наступнае: "З Чарнобылем ніякіх праблем! "Чарнобыльская станцыя пад калпаком — чаго ж вы яшчэ хочаце?..".

Скажыце, хто прымушае прэзідыум Акадэміі навук танцаваць пад нечую дудку? І дакуль нас будуць абуваць у лапці?

**Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік, прэзідэнт ГА БелСаЭС "Чарнобыль".**

ФОТАРЭПАРТАЖ

# ГАНЧАРЫК АКТЫЎНА ІДЗЕ Ў НАРОД







Сцвярджаюць, што працоўны дзень кандыдата на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Ганчарыка пачынаецца ў сем гадзін раніцы, а заканчваецца апоўначы. А наступнай раніцай — зноў у дарогу: Магілёў, Салігорск, Слуцк, Пінск, Брэст...

На адну з апошніх сустрэч на стадыёне "Будаўнік" у Салігорску прыйшло каля трох тысяч выбаршчыкаў, мясцовае тэлебачанне і шмат незалежных журналістаў.

Адна з апалагетак існуючага правіцеля таксама падышла, але на стадыён не зайшла, а пачала штосьці нашэптваць сабе пад нос каля ўваходу. Як аказалася, яна малілася Богу і прасіла яго праліць на ўдзельнікаў сустрэчы з Ганчарыкам дождж. Бог яе не паслухаў...

**Фота Алеся СІЛІЧА.**

# На вуліцы Электаральнай

## Няўжо пенсіянерам, што любяць сённяшнюю ўладу, не шкада сваіх дзяцей і ўнукаў?

На нашай вуліцы жывуць дзве-тры маладыя сям'і, але і тыя прыезджыя аднекуль. Старыя паступова вымiраюць. Штогод зыходзіць па некалькі чалавек. Тыя, што засталіся, стараюцца быць бліжэй адзін да аднаго. Па нядзелях, калі ўсе работы па гаспадарцы зроблены, збіраюцца пагаварыць, абмеркаваць апошнія падзеі, сярод якіх найгалоўная — ці будуць зноў павышаць пенсіі і на колькі.

Звычайна збіраюцца на лаўцы ля дома суседкі. Ходзіць, натуральна, туды і маці. Потым дзеліцца інфармацыяй. Апошнім часам, напярэдадні выбараў, палітычныя тэмы сталі пераважаць.

— Ну і што, — пытаю, — у народа ў галавах?

— Ат, кажуць, будзем галасаваць за Лукашэнку.

— Што так?

— А гэтага мы ведаем. Нам што галоўнае? Пенсію плаціць у час. А хто там прыйдзе замест яго? Ці будзе тады тая пенсія?

І бацька мяне здзівіў. Яшчэ год таму ён быў праціўнікам Лукашэнкі і даволі паслядоўным, лічыў яго, мякка кажучы, не вельмі разумным чалавекам. Сёння ён мне заяўляе, што галасаваць будзе за цяперашняга прэзідэнта. Пры ім, кажа, хоць нейкая стабільнасць. З той жа знакамітай пенсіяй. Ну, гэта, канешне, вядомы псіхалагічны фенамен: калі чалавеку не даваць есці тыдзень, а потым даць маленькі кавалачак хлеба, ён будзе рукі цалаваць. Таму, хто даў. Так што тактыка ў Лукашэнкі вельмі простая і, на жаль, вельмі эфектыўная.

І я пры гэтым нагадваю, што пенсіянераў у Беларусі 2,5 мільёна. Так бы мовіць, "пятая калона", якая ўсё і вырашыць. Мне добра вядома, як жывуць пенсіянеры, што ў вёсцы, дзе яны ў поўнай рабскай залежнасці ад любога маленькага начальніка, што ў горадзе, дзе яны ў такой жа рабскай залежнасці, але ад маленькай пенсіі. Мне іх шчыра шкада. Толькі атрымліваецца, што ім сваіх дзяцей і ўнукаў не шкада?

А галасаваць яны пойдуць усе як адзін. Зрабіць свабоднага чалавека з раба значна цяжэй, чым наадварот. Тым больш, калі ў апошняга няма ніякага жадання стаць свабодным.

* * *

Іду па вуліцы, раптам чую голас аднекуль зверху. Клічуць мяне. Гляджу, крычыць сябар дзяцінства Міша. Ён старэйшы за мяне на тры гады, але кампанія ў нас была адна.

У Мішы зараз трохпакаёвая кватэра, засталася пасля бацькі, які вярнуўся ў сваю вёску. Трое сыноў. Старэйшы сын заканчвае школу і марыць пайсці служыць у брыгаду спецпрызначэння. Папершае, рамантыка, па-другое, збіраецца застацца на звыштэрміновую — а гэта гарантыя стабільнай зарплаты і іншых даброт. І я пагаджаюся: у пасёлку знайсці працу практычна немагчыма. Любую.

Сам Міша шчыруе на ніве рамонту сельгастэхнікі. І як там?

— О-о, зараз добра, што ты! Раней, ведаеш, ніякай работы ўвогуле не было... А цяпер вось жаткі для "Донаў" ставім. Зарплата зараз у мяне 60 тысяч!

— Колькі-колькі?

— 60...

— Міша, ты ведаеш, колькі б змог пражыць у горадзе на гэтыя грошы? Можа, тыдзень, можа, крыху больш. Ды з такой сям'ёй...

Міша безнадзейна махае рукой і прапануе паспрабаваць "сельгаснапітак" уласнай вытворчасці. Без яго ў сельскай мясцовасці ніяк не абысціся. У Мішы перад вокнамі — градкі, дзе спеюць агуркі і памідоры. Яшэ шэсць сотак у полі. Натуральна, усе работы на гэтых сотках без самагонкі не абыходзяцца: прывезці гной, узараць, пасадзіць і г.д. Праўда, у гэтым годзе бульбы не будзе: спачатку вымачыла, потым высушыла.

— Вось скажы: як жыць?

Я маўчу, бо не ведаю сам. Паколькі Міша не ведае адказу на галоўнае пытанне, то апошнім часам занадта заняўся дэгустацыяй свайго напітка. Напрыклад, толькі ў маі яго 15 (!) разоў адпраўлялі дадому з работы з-за немагчымасці выконваць прафесійныя абавязкі, кажучы канцылярскай мовай. Не звальняюць толькі таму, што спецыяліст ён сапраўды класны.

Я Мішу разумею. Былы дэсантнік, моцны бы мядзведзь, прафесіянал у лепшым сэнсе гэтага слова — ён па-сутнасці ў цяперашнім жыцці непатрэбны...

Яго жонка працуе інжынерам на цагляным заводзе. Там свае цяжкасці, якія звязаны з "кантынгентам". Ён такі, што сёння працуе, а заўтра п'е. Клопат у "кантынгента" адзіны — дажыць да зарплаты ці авансу. Верагодна, гэтыя людзі таксама адчуваюць сваю непатрэбнасць?

Канешне ж, мы з Мішам загаварылі "за палітыку". І ён мне сказаў на развітанне:

— За каго галасаваць — не ведаю пакуль. А вось за каго не трэба, ужо ведаю дакладна.

— Ну і?

— За "вусатага" не буду!

* * *

Стаім на станцыі, чакаем цягніка на Мінск. Пачынаюць сноўдаць мытнікі, памежнікі. Іх тут шмат. Цягнік будзе стаяць хвілін 20—25, зараз пачнецца "шмон". На станцыі працуе мой аднакласнік. Паводле яго сведчання, нічога такога мытнікі звычайна не знаходзяць. Бывае, здымаюць з цягніка ўкраінцаў, калі тыя вязуць чаго-небудзь больш за норму.

— Электарат Лукашэнкі, — усміхаецца мужчына гадоў 45, ён таксама паедзе на гэтым цягніку.

— Чаму? — пытаю.

— Абібокі, вось чаму. Уся работа — тры—чатыры саставы праверыць і — спі далей. Вучыцца — розуму не хапае, працаваць — не хочуць. А тут такая лафа. Глядзі, якая ў іх форма, гэта ж колькі грошай на яе ідзе? А навошта яны? Мы ж не з Амерыкай мяжуем. Вось яшчэ міліцыя. Тая ж сістэма. Іду аднойчы з цягніка ў Гомелі з сумкамі, чамаданамі, падыходжу да свайго дома. Стаяць трое шчаўлікаў з дубінкамі. Спыняюць: хто такі, куды ідзеш, што ў сумках? Дадому, кажу, іду. А ну, дакументы! Гэта з якой нагоды? Ну, і "апрацавалі" мяне дубінкамі, тыдзень з сінякамі хадзіў. Божа, а яны ж маладзей за майго сына. Ты перад імі ніхто! Хто ім такую ўладу даў?!

— А што наконт выбараў думаеце?

— А што там думаць? За нас ужо ўсё вырашылі. Можа, і бюлетэні падрыхтаваны. Прыйдзе час — закінуць у скрыню, і ўсе справы.

**Андрэй СЯРЖАН. Гомельская вобласць.**

РЭГІЁН

## Старшыня дбае

**Старшыня Клімавіцкага раённага выканаўчага камітэта Канавалаў уласнаручна, пры дапамозе грубай фізічнай сілы, даставіў у міліцэйскі пастарунак актывістку выбарчага штаба кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Уладзіміра Ганчарыка.**

Галіна Васільчанка, якая ўваходзіць у клімавіцкую каманду аднадумцаў старшыні Федэрацыі прафсаюзаў нашай краіны, напрыканцы мінулага тыдня прывезла ў родны горад некалькі сотняў буклетаў і партрэтаў Уладзіміра Ганчарыка. Аднак немаладую ўжо жанчыну перастрэў сам старшыня выканкама і, гвалтоўна зацягнуўшы ў службовы аўтамабіль "Волга", адвёз у Клімавіцкі РАУС, дзе і "здаў" яе міліцыянтам.

Праз 3,5 гадзіны беспадстаўнага затрымання Галіна Васільчанка была адпушчана, а цалкам легальная, з выхаднымі данымі, агітацыйная друкаваная прадукцыя, у якой заклікалася галасаваць за Уладзіміра Ганчарыка, засталася ў міліцыі.

Па словах пацярпелай, падчас гвалту з боку старшыні выканкама непадалёк знаходзіўся вядомы ёй сведка, які бачыў усе дэталі "затрымання". Супрацоўнікі РАУС вельмі настойліва спрабавалі даведацца, хто гэты непажаданы сведка. Аднак спня Васільчанка ўтаіла імя гэтага чалавека. Да суда.

## І ў Чэрыкаве пільнуюць

**У Чэрыкаве былі затрыманы двое валанцёраў выбарчага штаба кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Уладзіміра Ганчарыка. Знойдзеная пры іх агітацыйная прадукцыя канфіскавана.**

Абсалютна беспадстаўнае затрыманне адбылося ўвечары. Міліцыянты спынілі валанцёраў, якія расклейвалі афіцыйныя агітацыйныя плакаты, абарвалі тое, што ўжо паспелі наклеіць, і даставілі іх у раённае аддзяленне ўнутраных спраў.

Праз пэўны час валанцёраў адпусцілі. Аднак без агітацыйных матэрыялаў.

## Роўны доступ да СМІ?

**Днямі Крычаўская гарадская арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) звярнулася ў афіцыйную раённую газету "Ленінскі кліч" з просьбай змясціць на яе старонках зварот да крычаўцаў, у якім агітавала за кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка.** Рэдакцыя адмовіла ў гэтым. Маўляў, у звароце мае месца паклёп на дзеючага зараз прэзідэнта краіны.

Актывісты партыі цалкам перакананы, што ніякага паклёпа на прэзідэнта іхні зварот не змяшчае і што забарона на публікацыю прыйшла ў "Ленінскі кліч" з мясцовага выканкама, які з'яўляецца заснавальнікам газеты.

**Андрэй КУЗЬМІН, кіраўнік інфармацыйнай службы. "Кантакт-цэнтр".**

ШТРИХИ К ПОРТРЕТУ

# Скажи, кто твои друзья...

**Народная мудрость выработала надежные критерии оценки деятельности человека. Один из них гласит: скажи, кто твой друг, и я скажу, кто ты.**

**Кто же друзья Александра Лукашенко, кто к нему приезжает сейчас в гости? Ведь известно, что друзья познаются в беде. А над Александром Григорьевичем нависла большая беда — предстоящие президентские выборы. Почувствовав, что минский дружок тонет, ринулись спасать его многочисленные друзья.**

## Кто к нему едет?

Недавно в Минске побывал лидер российских коммунистов Зюганов и по Белорусскому телевидению нахваливал Лукашенко, не жалея красок. Но кто такой Зюганов? Он ведь руководитель той партии, которая 80 лет морочила людям голову идеями о построении светлого будущего под названием "коммунизм", лидеры которой в годы сталинских репрессий уничтожили миллионы людей. Сейчас российские коммунисты всячески тормозят реформы в своей стране.

На днях побывал в гостях у Лукашенко и Жириновский, довольно одиозная личность, главный драгун в российском парламенте, без которого там не обходится ни одна драка.

Что объединяет Зюганова и Жириновского — так это их большое желание втянуть Беларусь в состав России. Если первый согласен включить Беларусь в состав России целиком, на правах Татарстана, то второй неоднократно настаивал на том, что области Беларуси следует включить в империю в качестве самостоятельных губерний, чтобы она уже никогда не смогла вырваться из объятий "старшего брата". Они понимают, что только с Лукашенко смогут проглотить нашу страну.

Спешит в Минск Лужков. Тот, кто смотрел в свое время программу Доренко на ОРТ, хорошо осведомлен о делишках этого деятеля.

Ожидается визит главы Ливии Каддафи, которого в столицах западных стран уже давно не желают видеть.

Вот такая компания спасает Лукашенко от поражения.

## Кто к нему не едет?

Да почти что ни один уважающий себя деятель. Не видим мы в своей столице президента Польши Квасьневского, который довольно часто бывает в Киеве и столицах ведущих стран Запада. Не желает посещать Минск канцлер Германии Шрёдер, несмотря на то что Германия поддерживает развитие экономических отношений с Беларусью. Не встречала белорусская столица руководителей Англии, Франции, Италии, других европейских стран. Не приглашают они Александра Григорьевича и к себе.

Лидер каждой страны мечтает побывать с визитом в Вашингтоне. Только после этого начинается его признание в цивилизованном мире. Лидер любой страны считает особой честью принимать руководителя США у себя. Лукашенко не приглашают за океан, даже не думают о посещении Минска.

Словом, нет у Лукашенко друзей среди руководителей цивилизованных, ведущих стран. Никто не хочет общаться с ним. И это при невероятных усилиях белорусского МИДа организовать хоть что-нибудь похожее на визит. Говорят, что даже на дипломатических тусовках, когда белорусские представители начинают заикаться о визите Лукашенко, их зарубежные партнеры тут же разбегаются в стороны. Ибо приличным джентльменам неприлично даже засветиться в компании, в которой упоминалось это имя.

Все это говорит о полной политической изоляции славянского интегратора и диктатора. Ни о какой серьезной экономической помощи и о миллионных инвестициях при таком руководителе даже надеяться не следует. Значит, быть нам бедняками и дальше. Но тогда кому нужен такой руководитель?

**Алесь ДРАБЧУК.**

НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

# Ён ніводнага дня не быў прэзідэнтам Беларусі

## Кандыдат у Прэзідэнты А.Лукашэнка адмовіўся выступіць перад выбаршчыкамі краіны са сваёй праграмай, як гэта зрабілі С.Гайдукевіч, С.Домаш і Ул.Ганчарык. Тэлегледачам патлумачылі, што А.Р. раскажа выбаршчыкам аб сваёй праграме ў звычайным рабочым парадку

Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар

Такую заяву можна зразумець, бо А.Лукашэнка красуецца на тэлебачанні дзень пры дні. Але справа не толькі ў гэтым, але і ў тым, што трэба канкрэтна расказаць, чаму правалены ўсе абяцанні сямігадовай даўніны. Абяцаць што-небудзь наперад без гэтага — няма сэнсу. Ніхто не паверыць.

Лукашэнка знаходзіцца ў тупіку. Практыка паказала, што ён не адпавядае патрабаванням да чалавека, які можа кіраваць дзяржавай. Успомнім філасофскую прытчу, як бацька павучаў свайго сына. Сын мой, раіў ён, дзякуй усім, хто крытыкуе цябе, бо гавораць яны шчыра, і адпаведныя рабі высновы. Наадварот, асцярожна адносся да хвалы твайго акружэння. Падумай, што і дзе ты зрабіў дрэннага, каб выклікаць такую з'яву. Бацька А.Лукашэнкі, пэўна, не рабіў павучанняў сыну, таму і нарабіў ён шмат недаравальных памылак.

**Памылка першая.** Не была праведзена лібералізацыя эканомікі. Нездарма, ідучы на чарговыя выбары, А.Лукашэнка мусіў аб'явіць "аб лібералізацыі эканомікі і стымуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці чалавека". Але, мяркуючы па апублікаваных у друку тэзісах, не зразумеў, што такое лібералізацыя і дзеля чаго яна патрэбная. Інакш не з'явіліся б такія запісы, што "да моманту стабілізацыі цэн на жыццёва важныя групы тавараў яны будуць пад кантролем дзяржавы". Цікава, як можна стымуляваць цэны, калі яны не будуць стымуляваць вытворчасць без канкурэнцыі? Эканамічна гэта немагчыма. Добра, што "будзе спрошчаны працэс рэгістрацыі прадпрымальніцкіх структур". Але кантроль дзяржавы за вытворчасцю не спыніцца, а "колькасць ліцэнзіруемых відаў дзейнасці будзе скарочана да 10—12". Значыць, на выпадак перамогі А.Лукашэнкі на выбарах нас чакае не лібералізацыя, а паўлібералізацыя, якая поспеху краіне не прынясе.

Захаванне адміністрацыйна-каманднай эканомікі гарантуе сёння і будзе гарантаваць заўтра стагнацыю эканомікі. Сёння гэта праяўляецца ў тым, што вытворчасць вядзецца на склад, скарачаюцца інвестыцыі, змяншаецца абаротны капітал да крытычнай рысы, расце лік стратных прадпрыемстваў, колькасць якіх (разам з крытычна рэнтабельнымі да 5%) дасягнула 60%. Гэта жах. І як можна гаварыць у гэтых умовах пра рост і нейкія поспехі?

**Памылка другая.** Было спынена і адкладзена на няпэўны час правядзенне аграрных пераўтварэнняў. Гэта прывяло да дэградацыі сельскай гаспадаркі. За 7 год кіравання краінай А.Лукашэнкі пагалоўе буйной рагатай жывёлы скарацілася на 1,5 мільёна галоў. Пагалоўе жывёлы скарачалася на 585 галоў штодзённа! Ды на 92 каровы менела дзень пры дні. На дзесяткі працэнтаў зменшылася колькасць усіх відаў тэхнікі. Напрыклад, камбайнаў паменела з 1994 года па 2001 год на 8400 адзінак(!).

Уборка завяршаецца, а намалочана на 1 мільён тон збожжа меней, як чакалася. Прычына — састарэлыя арганізацыйныя формы вядзення гаспадаркі, ігнараванне фермерства, нізкая прадукцыйнасць працы. Ні вопыт суседзяў, ні сусветны досвед не ўспрымаюцца былым дырэктарам саўгаса і зараз, калі, як кажуць, усё дабіта да ручкі. Не маргнуўшы вокам, А.Лукашэнка піша ў сваёй праграме: "Мы ідзём па шляху рэфармавання сельскай гаспадаркі, але без спешкі, разважліва... Пры гэтым будзе абавязкова захавана буйнатаварная вытворчасць, калгасы і саўгасы прымусова разганяцца не будуць!"

Ніхто не выступае супраць буйной таварнай гаспадаркі. Рэнтабельныя і перайшоўшыя на рыначныя прынцыпы гаспадарання калгасы павінны застацца, каб працягваць прыстасаванне і ўжыванне ў новыя ўмовы. Астатнія павінны быць неадкладна рэфармаваны. Прытым зямля павінна быць перадана вытворцам ва ўласнасць. Але рабіць гэта ўлады не збіраюцца. У сваіх тэзах А.Лукашэнка падкрэслівае: "Дзяржаўная ўласнасць на землі сельскагаспадарчага прызначэння — галоўны набытак усяго народа — будзе захавана". Значыць, ніякіх рэальных рэформ у сельскай гаспадарцы чакаць не варта. Што датычыцца стварэння буйной таварнай гаспадаркі на вёсцы, то калгасы і саўгасы ніколі такімі не былі. Адзіны шлях — канцэнтрацыя і цэнтралізацыя фермерскіх гаспадарак. Але пра гэта ўлады не думаюць.

**Памылка трэцяя.** Імітацыя поўнай занятасці. Праз усе 7 год А.Лукашэнка гаварыў аб такім вялікім поспеху, як ліквідацыя беспрацоўя. У краіне нібы не заняты толькі 100 тысяч чалавек. Але фактычна беспрацоўных у некалькі разоў болей. Рэальна ў краіне не маюць працы 10% працаздольнага насельніцтва. Папершае, на ўсіх буйных прадпрыемствах пад адміністрацыйным ціскам вертыкалі трымаюцца дзесяткі тысяч фактычна непатрэбных рабочых і служачых. Сотні тысяч людзей працуюць няпоўны тыдзень альбо накіроўваюцца ў датэрміновыя адпачынкі, часта без утрымання. Вялікае беспрацоўе на вёсцы, асабліва ў зімовы час.

Каб пераадолець у краіне вялікае беспрацоўе, трэба ўсямерна развіваць малы і сярэдні бізнес, а таксама падтрымліваць самазанятасць. Без гэтага абяцанні А.Лукашэнкі забяспечыць рост вытворчасці і заработнай платы марныя. Многія камандзіры вытворчасці і спецыялісты чакаюць, калі ў краіне знікне схаванае беспрацоўе. Сёння ні ў адной суседняй краіне няма такога самавольства на рынку працы, якое пануе ў нас.

**Памылка чацвёртая.** Да гэтага часу не адрэгуляваны размеркавальныя адносіны, хоць эканамічныя законы патрабуюць, каб пэўная частка зноў створанай вартасці ішла на заработную плату работнікаў рэальнага сектара, на інвестыцыі, калі вядзецца пашыранае ўзнаўленне. З астатняй часткі можна выдзяляць сродкі на войска, міліцыю і ўтрыманне дзяржаўнага апарату. У сістэме размеркавальных адносін А.Лукашэнкі ўсё наадварот. Спачатку выраблены прадукт ідзе на ўтрыманне раздутага міліцэйскага і ўпраўленчага корпусу, на войска, на ўсялякія пампезныя забавы кшталту базараў і дажынак, а затым, што застаецца, атрымліваюць настаўнікі, лекары ды іншыя.

Зразумела, што пры такім стаўленні да размеркавальных адносін нельга забяспечыць рост рэальных заробкаў насельніцтва ў бліжэйшыя 4—5 год да 250 долараў у месяц. Тым больш нельга ператварыць размеркавальныя адносіны ў стымулятар вытворчасці, што павінна быць самым галоўным у эканамічным і сацыяльным планах.

**Памылка пятая.** Самая недаравальная — ігнараванне нацыянальнага адраджэння, найперш мовы. Заходнія эканамісты ўстанавілі, што без аднаўлення мовы, без адраджэнцкага духу ў народзе нельга адрадзіць эканоміку. Паколькі А.Лукашэнка выкінуў родную мову з дзяржаўнага ўжытку, па сутнасці, растаптаў яе, то ён дапусціў не проста памылку, а здраду беларускаму народу.

Паколькі А.Лукашэнка, апроч некалькіх выпадкаў, не карыстаўся нацыянальнай мовай, то ён ніводнага дня не быў і прэзідэнтам Беларусі. У гэтым плане нават цяжка сказаць, хто ён для беларускага народа.

# Бунтуюць інваліды-калясачнікі

Перад будынкам Мінгарвыканкама прайшла несанкцыянаваная акцыя, арганізаваная Рэспубліканскай асацыяцыяй інвалідаў-калясачнікаў (РАІК), у якой прынялі ўдзел больш як 30 інвалідаў з Мінска, Барысава, Бабруйска і Беразіно.

Падставай для правядзення пікета стала невыкананне з боку дзяржавы канстытуцыйных правоў інвалідаў-калясачнікаў. У Беларусі зарэгістравана больш як 26 тысяч інвалідаў-калясачнікаў, 300 з якіх з'яўляюцца членамі асацыяцыі. У адпаведнасці з законам Беларусі аб сацыяльнай абароне інвалідаў, усе дзяржаўныя органы абавязаны сачыць за выкананнем яго палажэнняў і спыняць дзейнасць усіх грамадскіх устаноў і аб'ектаў сацыяльна-культурнага прызначэння, якія не абсталяваны бесперашкодным доступам для інвалідаў-калясачнікаў.

Аднак Мінгарвыканкам распрацаваў і прыняў чарговы дакумент "Мерапрыемствы па стварэнні безбар'ернага асяроддзя ў Мінску для інвалідаў і фізічна аслабленых асоб", які перанёс выкананне патрабаванняў закона на пяць гадоў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

# Бело-красно-белая мишень

На минувшей неделе с территории специальной бригады милиции МВД, которая располагается на пересечении улиц Маяковского и Семенова, раздавались автоматные очереди, взрывы, душераздирающие крики. Жители близлежащих домов тревожно выглядывали из окон квартир, прохожие останавливались у железобетонного забора.

Втайне от глаз "нежеланных наблюдателей" за глухим забором шли тренировки личного состава бригады по разгону митингующих по новой методике.

В роли "митингующих" выступали сами же солдаты, переодетые в гражданскую форму. Они были с бутылками в руках, с кольями и прутьями, издавали душераздирающие крики. Для создания более колоритной массовки "митингующие" солдаты устанавливали мишени — ростовые фигуры. Мишени обычно окрашиваются в зеленый цвет или в цвет той местности, где проходят учения. Но эти ростовые фигуры были покрашены в цвета исторического флага Беларуси — бело-красно-белый цвет.

**Иосиф АРАБЧИК, житель Минска.**

